# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12.
Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 10 м.
Падпіска на 3 месяцы каштуе 150 м. (з даст. да хаты).
Цана абвестак: 50 м. за радок пэтыту (на апошн. стр.).

Год I. Вільня. Пятніца, 16-га верасьня 1921 г. № 12.


†
Сьв. пам.

## Арнольд Дыліс

вучань 7 клясы 1-ае Віленскае Беларускае Гімназіі, скончыў жыцьцё трагічнаю сьмерцю, як нявінная ахвяра горкага непаразуменьня ўночы з 12 на 13 гэт. верасьня, аб чым паведамляюць у глыбокай засмучанасьці

**Колегі па гімназіі.**

## Як быць далей?

Калі мы прыглядзімся да апошніх здарэньняў, якія адно за другое ярчэй ілюструюць нашае беларускае палажэньне ў сфэры панаваньня польскае ўлады, дык павінны будзем прызнаць, што сягоньня ўжо наўрад ці можна хоць што-нібудзь сказаць на тэму аб тым, што істнуюць яшчэ тыя, ці іншыя здаровыя беларуска-польскія адносіны.

Нормальнымі ўсё-ж такі дзехто лічыў-бы гэтыя адносіны, скажам, навет і тады, калі-б у Польшчы запанаваў зусім выразны пагляд на беларусаў, ну, хоць-бы, як на нацыянальную меншасьць з усімі выцякаючымі адсюль правамі і пасьледствамі.

Блага, ці добра гэта было-б, але нешта ўсё-ж такі было-б.

Можа зразумелым было-б і тое, каб—скажам—спрабаваў нехта падыйсьці проста да рэалізацыі ўсіх пасівеўшых ужо і стаўшых архіўнымі лёзунгаў, накшталт „роўны з роўным, вольны з вольным“, „wcielenie do Macerzy“ і г. д.

Што выйшла-б з гэтых спробаў—сказаць, пры сягоньняшніх варунках, гэтак сама трудна, бо надта, як той казаў, заблуталіся справы, але кожны ведаў-бы хто ён і што ён, ведаў-бы які даць адказ на вострае пытаньне: „як быць далей далей“.

Паўтараем, гэта ведаў-бы кожны, самы няхітры й апалітычны беларус. А так выходзіць, што, як у тэй народнай прыказцы: „папаўся ў нерат—ні ўзад ні ўперад“.

Гэткая абывательская псыхолёгія шмат-каго з нашых грамадзян разьбівае беларускую нашу адналітасьць і не дае магчымасьці дружнаю грамадой выйсьці на адзін цьвёрды шлях, дзеля дасягненьня сучасных магчымасьцяў у кірунку нашых нацыянальных жаданьняў.

Шмат хто, праўда, йдучы тым шляхам нацыянальнага адраджэньня, які мае пад сабою гістарычны грунт далёкай мінуўшчыны, не задае дый не патрабуе задаваць сабе пастаўленага пытаньня, як быць далей, але шмат каму, навучанаму горкай жыцьцёва - палітычнай практыкай, пара было-б задумацца над гэтым, а можа й ня думаючы доўга, вырашыць, як кажуць, далейшую лінію свайго трыманьня.

Дайшло да таго, што беларускія інтарэсы ў межах Польскае Дзяржавы пачынае бараніць і браць „пад сваю высокую руку“ прэзыдэнт-камісар Савецкай Беларусі Чарвякоў, які выслаў ужо ноту да польскага міністра заграні́чных справаў.

Для гэтай ноты, як прызнаюць навет некаторыя органы польскай прэсы, набралася шмат матар'ялу, натворанага польскаю крэсавай палітыкай.

Незразумелая школьная (дый інтшая) палітыка на „крэсах“, арышт у Горадне мясцовых беларускіх працаўнікоў, навет разам з тым і старшыні Беларускага Камітэту ў Варшаве грам. Л. Дубейкоўскага і адкрытае пісьмо яго з гэтае прычыны найлепей сьведчаць аб тым, што пэўным колам беларускіх дзеячоў ня шкодзіла-б, нарэшце, добра праравідаваць свой дасюляшні кірунак і пашукаць у ім якога-б там ні было сэнсу.

Бо, пашукайма толькі нейкага сэнсу ў тым, што дзеецца.

Школьныя інспэктары на мясцох фактычна ліквідуюць беларускія школы, пасылаючы цяпер, у пачатку школьнага году нашых вучыцялёў на курсы ў... Кракаў, а тых, што адмаўляюцца, проста звальняюць.

Тут, праўда, ёсьць капля лёгікі —ня слухаеш начальства, дык падпадаеш пад рэпрэсію. Але дзе-ж былі панове школьныя інспэктары з сваімі мудрымі распараджэньнямі раней? Чаму кракаўскія камандзіроўкі прапануюцца вучыцялём якраз тады, калі ім трэба прыступаць да свае ня вельмі салодкае школьнае працы?

А іншы раз, дык проста розум можна страціць, думаючы над тым, што значаць школьна-інспэктарскія заявы аб магчымасьці сярод беларускага насяленьня школ... расейскіх!

Што гэта — сваволя паасобных вураднікаў, ці зьверху прадыктованы курс школьнае палітыкі?

Калі сілаю, нядаўнай памяці, царскага расейскага рэжыму русыфікавалі нас інспэктары быўшае Расейскае Імпэрыі, дык тут яны ўсяго толькі былі вернымі сабе і таму, каму служылі.

Калі-ж сягоньня хоча заняцца русыфікацыяй беларусаў польскі інспэктар, дык ужо прападае навет найменшы цень простае мужыцкае лёгікі.

Далей ісьці, сапраўды-ж, няма куды.

Калі, будзем казаць, у провінцыі арыштоўваецца, ня гледзячы ні на якія дакумэнты і гарантыі незачэпнасьці, выданыя ў сталіцы, гэткі вядомы ў Варшаве беларускі дзеяч, як грам. Дубейкоўскі, дык тут таксама нешга крыху большае за простае непаразуменьне.

Вось дзеля гэтага ўсяго і трэба было-б некаторым дзеячом спакойна і арганізованна азірнуцца на тое, кудэю йшлі яны і зразумець да чаго прыйшлі.

А тым, хто дасюль яшчэ топчацца, быццам добры абываталь, на раздарожжы, ня шкодзіла-б, не чакаючы магчымасьці далейшых адкрытых пісьмаў і розных такіх пераканаsucceeded ньняў на горкай практыцы, паставіць сабе пытаньне: „як быць далей?“

Бо з гэтым можна і спазьніцца.

## Да чаго дайшло!

**Адкрытае пісьмо Старшыні Беларускага Камітэту ў Варшаве Л. Дубейкоўскага.**

*Паважаны Пане Рэдактар:*

Вельмі прашу зьмясьціць у паважанай Вашай часопісі вось што:

Дня 6 жніўня г. г. прыбыў я ў Горадзен у справах дабрачынных і асьветных. На месцы даведаўся, што гэтага-ж дня сьледчая паліцыя робіць аблаву на беларусаў, сярод белага дня ператрасае памяшканьні і „падазроных“ арыштуець.

Зьявілася да мяне п. Кузьняцова-Курбская, матка заарыштаванага, прасіла памагчы і даведацца ў мясцовай улады аб прычыне арышту яе сына.

З увагі на бедную, старую ўдаву і адабраньне ад яе адзінага сына, апякуна і падпоры старасьці, а будучы Старшынёй Беларускага Камітэту ў Варшаве, быў змушаны з ураду споўніць яе просьбу, тым болей, што арыштаваны быў вучыцелем у маёй школе.

Удаўся да Сьледчага Ўраду, гдзе мяне́ паінфармавалі, што прыказ аб арыштаваньні Уладзімера Курбскага, б. студэнта, паходзіць ад Старасства, а справай той кіруець Начальнік палітычнага аддзелу п. Іоткоўскі, сэкрэтар пры Старасьцьве.

Скіраваўся да Старасства, але з поваду нядзелі не знашоў нікога, апроч стоража катэры і сказаў мне адрэс п. Іоткоўскага. Прадставіўшыся, кім я ёсьць, запытаў прычыны арышту Курбскага.

„Ня ведаю, ці арыштаваны“—адказаў п. Іоткоўскі. Тут-жа радзіў мне забраць з прытулку беларускіх дзяцей, каторыя жывуць у Барыса-Глебскім манастыры, дзе знаходзіцца, як ручаўся п. Іоткоўскі, запраўднае гняздо бальшавізму. Я-ж асьведчыў, што асоба, каторую відзіць пан перад сабой і ёсьць апякун гэтага прытулку бедных дзяцей, а кіраунічка прытулку п. Станіслава Буйла ёсьць асоба з грунту шляхетная і пачцівая, нямаючая нічога супольнага з бальшавізмам; а што тычыцца дзяцей, дык ня можа быць і мовы, каб былі бальшавікамі.

З болем сэрца пакінуў памяшканьне Начальніка і ўдаўся шукаць п. Старасту. Аказалася, на маё няшчасьце, што Стараста п. Рагалевіч ня быў на той час у Горадне, заступаў яго п. Стэмпнеўскі, рэфэрэнт самаўрадаў, да каго і зьвярнуўся.

На пачатку назваўся, кім я ёсьць, і прасіў выясьніць, што было прычынай арышту Курбскага. „Не магу сказаць, дзеля таго, што гэта магло-б пашкодзіць у далейшых арыштах беларусаў“—адказаў п. Стэмпнеўскі. На другі дзень даведаўся я ў Старасьцьве ад п. Іоткоўскага, што арыштаваны Курбскі цяжка абвінавачаваецца і што справа яго будзе перададзена Пракурору. Напісаў просьбу да пракурора, просячы прысьпяшыць следзтва, і дастаў паведамленьне, што справа Курбскага перададзена на разбор да сьледчага судзьдзі I рэвіру пры Акружным Судзе.

Пры выясьненьні справы ў сьледчага судзьдзі устанавіў я, што даказны матар'ял, забраны ў часе рэвізіі памяшканьня Курбскага, гэтакі: 1) колькі штук кніжак для беларускіх заграні́чных пашпартоў, пакіненых у Курбскага Дэлегатам Беларускай Рады, у час наступу бальшавікоў і 2) колькі вайсковых пасьведчаньняў, каторыя асталіся ў Курбскага з часу ўрадаваньня яго ў ролі вярбунковага інструктара пры Беларускай Вайсковай Камісіі, каторая ў м-цы траўні г. г. ўжо зьліквідована. Відаць ясна, што даказны матар'ял зусім легальны і не дае поваду да абвінавачаньня і арыштаваньня Курбскага, на што праўнік зусім згодзіцца. Але паміма гэтага, — знаходзіцца іншы матар'ял—роблены, галаслоўны і ганебна вінавацячы Курбскага— гэта акт, створаны палітычным аддзелам пры Старасьцьве.

Паводле акту, Курбскі мае быць членам якойсь соцыяль-рэвалюцыйнай мясцовай партыі, заданьнем каторай ёсьць адбудаваньне незалежнай Бела-

рускай Рэспублікі на землях, каторыя, паводле трактату ў Рызе, апынуліся ў граніцах Польшчы.

Дзеля такога няслушнага і змысьленага абвінавачаньня, прасіў я судзьдзю дазволіць відзецца з арыштаваным, а як толькі гэта адтрымаў, напісаў на імя Пракурора жальбу, каторую Курбскі, ў прысутнасьці адміністрацыі турмы, падпісаў.

Па аканчаньні гэтых справаў, меў я паехаць з Горадна. Тымчасам сьледчая паліцыя, перад самым маім ад'ездам на станцыю, абкружыла дом, у каторым знаходзіцца дзіцячы прытулак, гдзе праз колькі дзён і я прабываў. Начальнік паліцыі паказаў два паручэньні заступніка Старасты п. Стэмпнеўскага: адно адносілася да дзіцячага прытулку, каб у ім зрабіць дэталічную рэвізію, другое ўжо — да мяне. Згодна з прыказам п. Стэмпнеўскага, абавязкам паліцыі было спраўдзіць мае асабістыя дакумэнты, але апроч таго, калі-б я ня меў т. зв. карты пабыту на м. Горадзен, — арыштаваць мяне і пад канвоем адаслаць этапам да распараджэньня Камісара Ураду ст. м. Варшавы.

Асабістасьць маю сьцьвердзіў я дыплёматычным пашпартам, выданым праз Польскае Міністэрства Заграмічных Справаў; карты пабыту, на моцы гэтага дыплёматычнага пашпарту, не аплачаваю навет і ў Варшаве, гдзе ўвесь час пражываю.

Аднак, кіраўнік сьледзтва, паміма сьцьверджаньня мае асобы, быў суровым выканаўцам прыказу Старасты. Прасіў яго, каб пусьціў мяне для прадстаўленьня маіх дакумэнтаў асабіста ініцыятару прыказа п. Стэмпнеўскаму. Пазволіўшы мне гэта, пусьцілі мяне пад канвоем шукаць па месьце п. Стэмпнеўскага. У якойсь кавярні знайшоў яго ў кампаніі колькіх асоб. Зьвярнуўся да яго з просьбаю, выказаваючыся асабістым довадам. „Я толькі выканаўца прыказу—напраўляе гэта ваявода з Беластоку“,—адказаў п. Стэмпнеўскі, а да варты дадаў: „прыказ мусіць быць акуратна споўнены“.

Бачыў я, што няма ніякай рады. Быў змушаны паддацца самаволі і пайсьці з кавярні пад канвоем да арышту. Трымалі мяне больш, як суткі і аж з трэцім пягнікам адаслалі да Беластоку, куды прыехалі ў 2 з пал. гадзіны ночы. Дзеля познае пары, варта, ня ведаючы, дзе мяне памясьціць, завяла да паліцыі 3-га рэвіру, дзе зьдзекаваліся нада мною, стараючыся зрабаваць мае кішэні. Каля 9-й толькі гадзіны быў выданы я ў рукі сьледчай экспозытуры дзе, пасьля суровага сьледзтва і сьпісаньня пратаколаў— звольнілі.

Адпачыўшы, пашоў я у рэстарацыю, каб заспакоіць голад. Толькі пасьпеў спажыць пасілак, як убачыў перад сабой таго-ж самага ўрадніка Экспозытуры, каторы мяне звольніў. „Мусіце вярнуцца са мною да экспозытуры. Затэлефанавана да нас з Горадзенскага Стараства, каб Вас не звальняць, а адаслаць пад канвоем у Варшаву“. Пасадзілі мяне ўзноў пад арышт, а ўночы адаслалі цягніком у Варшаву і аддалі ў распараджэньне Камісара Ураду.

Паказаныя факты аж надта ілюструюць, як урадуець польскі ўраднік на землях з беларускай люднасьцю. Гэта ёсьць страшны трагізм: кожны, хто называець сябе беларусам, ужо праз гэта сама робіцца ўваччу адміністрацыі праступнікам супроць польскай дзяржаўнасьці. Кожная беларуская арганізацыя, ці то культурная, асьвятовая, хрысьціянская, дабрачынная, прамысловая, гаспадарчая, ці гандлёвая—прызначаецца загадзя адміністрацыяй на зьнішчэньне. Кожны беларус, як і цэлыя арганізацыі, ня толькі наводзяць на сябе падазрэньне ў бальшавізьме, але прост называюцца бальшавікамі, каб воража і рэпрэсыўна ўспасобіць гэтым у адносінах да беларусаў увесь польскі народ, а таксама і сфэры правадаўчыя і ўмеркаваныя.

Люднасьць беларуская крыўдзіцца забаронай для яе легальнага жыцьця, з аднэй стараны, правакуецца да рабленьня праступкаў, а пасьля з другой— душыцца ўсімі рэпрэсіямі за розныя западазрэньні і нелёяльнасьць да Польшчы.

Уважаю, што незьвяртаньне ўвагі на гэтыя адносіны ня толькі руйнуе спакойнае жыцьцё беларусаў, але так сама, падрываючы агульны аўторытэт, уплывае руйнуючым спосабам на арганізм Польскага гаспадарства.

Не магу на часіну дапусьціць, каб гэты парадак рэчаў меў астацца надалей, каб ня было кары на тых, што ўпраўляюць самаволяю з уласнай ініцыятывы, і каб перастала панаваць права ў Польскім гаспадарсьцьве.

Ня хочацца верыць, каб Польшча культуральная, дэмократычная, хрысьціянская, прававі тая і правадаўчая, маючая напісаную конституцыю, гарантуючую роўнасьць перад правам усіх нацыянальнасьцяў у гаспадарсьцьве — сьвядома падтрымоўвала самавелю адміністрацыі для трыманьня ў няволі і рэпрэсіях беларусаў у сваім гаспадарсьцьве.

**Лявон Дубейкоўскі**

Старшыня Беларускага Камітэту ў Варшаве. *)

**Увага**: Лявон Вітэн - Дубейкоўскі, архітэктар, **) зьяўляецца адным з найстарэйшых беларускіх дзеячоў. Удаўшыся ў астатнія гады ў палітыку, ён быў вядом, як чалавек так званай польскай орыентацыі (спадзяваўся вызваліць Беларусь дружбай з Польшчаю). Ня гледзячы на розьніцу ў палітычных паглядах, ён дужа паважаецца ўсім-чыста беларускім грамадзянствам, як асоба крыштальна чыстае душы. Выказуем яму самую глыбокую і шчырую спагаду, а разам з ім і ўсім тым пацярпеўшым братом, якія навет ня могуць голасна, ў газэтах, сказаць аб сваіх крыўдах, а ня раз цярпелі яшчэ горш за п. Л. Дубейкоўскага. Хочам верыць, што польскі ўрад належна пакараець зьневажаўшых п. Л. Дубейкоўскага асабіста і як Старшыню Беларускага Камітэту ў Варшаве.

(„Б. В.“).

*) Тут зьмешчан пераклад пісьма з польскай газэты „Glos Litwy“, дзеля таго што пісьмо, па сланае п. Дубяйкоўскім у беларускія газэты, яшчэ ня прышло з Варшавы.

**) Беларускае настаўніцтва Віленшчыны магло пазнаёмцца з ім на яго селетніх лекцыях аб беларускай архітэктуры на Вучыцельскіх Курсах у Вільні.

# Вольная трыбуна.

## Праваслаўная царква на Беларусі *).

Пры адбудове Бацькаўшчыны немагчыма прайці міма пытаньня аб рэлігійным жыцьці праваслаўных беларусаў.

Цяпер, калі Бацькаўшчына разадраная на часьці і ў кожнай з іх мясцовы ўрад уводзіць свае парадкі, калі і тут і там што ні дзень зьдзекаваюцца над рэлігійным пачуцьцём праваслаўнага беларуса, царква для яго часта робіцца кутком у якім ён шукаець ратунку і да якога горнецца.

Праваслаўная расейская царква да якой цяпер належаць і беларусы, зрабіла праз дзевяць вякоў свайго істнаваньня вялікую працу—пашырыла асьвету і выгадавала ў Маскоўшчыне нацыянальную ідэю, але пасьля Пётры I, каторы зрабіў яе паслушным арудзьдзем гаспадарства, яна знаходзілася як-бы ў сьне да самых апошніх часоў. Царкоўныя дзеячы, і вялікія і малыя, спаўнялі свае абавязкі (царкоўныя трэбы), але ня былі арганізатарамі царкоўнага жыцьця ў прыходах. Даўнейшая слава праваслаўных брацтваў на Беларусі памёрла, а сучасныя брацтвы і іншыя царкоўныя арганізацыі няжыцьцёвы.

Расейская рэвалюцыя дала царкве так даўно чаканую свабоду. Адбыўшыся ў Маскве ў 1917 - 1918 г.г. царкоўны сабор пачаў новы пэрыяд гісторыі праваслаўнае царквы.

Найбольш цікавы для нас пастановы Сабору аб арганізацыі прыходзкіх справаў, асабліва аб арганізацыі царкоўнага ўраду.

Нам трэба добра памятаваць, што цяпер царква на Беларусі маець значэньне ў будове новага жыцьця.

Дзеля гэтага кожны беларус павінен цікавіцца справамі сваей царквы.

Сваё царкоўнае жыцьцё павінны арганізаваць самі беларусы і адтрымаць фактычную для сваей царквы незалежнасьць, ідэйная-ж, канонічная сувязь з Маскоўскім патрыярхам ня можа парывацца ў межах нашай бацькаўшчыны.

Дзеля гэтае мэты трэба цяпер ужо пачынаць абмяркоўваць абразы нашае будучае царкоўнае арганізацыі.

Усё гэта паможа нам спраўдзіць у жыцьці нашы думкі і надзеі.

**М. Кр.**

*) Артыкул зьмяшчаем як вельмі спрэчны.
*Рэд.*

# Маленькі фэльетон.

## Канец кар'еры.

Нехта радзіўся надта маленькім. Маленькім рос, малым і вырас. А радзіўся ён у такім бойкім месцы, ў мястэчку, ці што, адкуль выйшаў не адзін, кажуць, беларускі дзеяч. Падрастаючы і прыглядаючыся, ён прыйшоў да пракананьня, што й сам-то ён напэўна можа стаць выдатнаю фігурай сярод мужыкоў і напэўна будзе сякім-такім... дзеячом.

Як думаў Нехта, так і сталася. Ведама-ж у іншых людзей, дык былі ўжо й ня гэткія маленечкія фігуры, а беларускі народ — адна шэрая роўная маса: сярод яго можна лёгка зрабіцца дзеячом, а сярод іншых так сабе можа й застацца нейкаю нікчэмнасьцю.

Наш Нехта жыў сабе год за годам, хаця ўжо больш ня рос ні ў гару, ні ўшыркі, а так і заставаўся маленькім брызгульчыкам.

Затое набраў сабе славы, зрабіўся дзеячом, будаваў школу, ладзіў вечарыны, коопэратывы і ўсюды шчабятаў толькі пабеларуску.

Выбачайце, ўсюды, то ўсюды, але гэтак толькі шмат каму здавалася.

Напраўду выйшла, што вядомы дзеяч, маленечкі наш Нехта гаварыў пабеларуску ўсюды, апрача... свайго ўласнага дому.

А так... Бо з маленечкім Некім здарылася тое, што амаль ня з кожным здараецца.

Калі ён пачуў сябе ўжо, як мае быць дзеячом і мог адважна лічыць сябе, як кажуць чужаземцы «первым парнем по деревне», гэта значыць першым чалавекам у сваёй родный вёсцы, дык тады пачаў думаць аб далейшым лёсе сваім.

Давялося, бачыце, Некаму - дзеячу ажаніцца. Жонка дзеяча, хоць і радзілася ў Беларускай Зямлі, але лічыла сябе небеларускаю, бо гэта-ж так брыдка, памужыцку гаварыць, нюхацца з мужыкамі накшталт мужа, наагул сярод гэтага „быдля“ шукаць нейкае там славы. Гаварыла жонка дзеяча непабеларуску а неяк так ні то пасвойму, ні то пачу

# Ўсебеларускі Зьезд 1917 г.

**Рэфэрат чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 27 кастрычніка 1920 г.).**

(Гл. № 11).

Гэта прынцыпіяльная пастанова знайшла магутны одгук і падтрыманьне сярод усіх беларускіх арганізацыяў і асабліва гэткіх вялізных сходаў, як вайсковыя беларускія зьезды быўшых расейскіх фронтаў.

Франтавыя беларускія зьезды адбыліся:
1) Заходняга фронту ў Менску з 5—11/XI —1917 г.
2) Паўночнага фронту ў Віцебску з 2— 7/XI —1917 г.
3) Румынскага фронту ў Адэсе з 3— 8/XII—1917 г.
і 4) Паўднёвага фронту ў Кіеве з 3— 8/XII—1917 г.

Як бачым, апошнія два зьезды адбываліся ў адзін і той самы час з 3—8/XII 1917 г. Гэта лішні раз сьведчыць аб сіле і росьце нашага руху, калі ўзяць пад увагу, што на кожны з гэтых зьездаў Цэнтральная Рада выдэлегоўвала сваіх сяброў, каб быць на месцы і ўзаемна інформавацца.

Падтрымаў пастанову Цэнтральнай Рады й вялікі, склікаthe ў Маскве Народнаю Грамадою зьезд беларускіх бежанскіх арганізацыяў, а так сама шмат зьездаў настаўніцкіх, коопэратарскіх і інш. прылучыліся да насьпеўшае думкі стварыць свой беларускі нацыянальна-дзяржаўны орган.

Нарэшце, думка гэта прыняла зусім рэальныя формы. На месца Цэтр. Рады беларускіх арганізацыяў паўстае „Вялікая Беларуская Рада“, зложаная з прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацыяў, як грамадзкіх, так і вайсковых. Вайсковая частка „Вялікай Рады“ працуе аўтаномна, як „Цэнтральная Вайсковая Беларуская Рада“, стараючыся стварыць нацыянальную аружную сілу, для наданьня „Вялікай Радзе“ патрэбнай рэальнай вагі і моцы.

Вялікая Беларуская Рада, напярэдадні скананьня Часовага Расейскага Ўраду Керэнскага, ўходзіць з ім у зносіны, выдзяліўшы з сябе „гэнэральных камісараў“ на розныя галіны адміністрацыі. Але зносіны гэтыя нічога ня былі вартымі праз тое, што сапраўды **часовы** ўрад Керэнскага быў ужо скінуты бальшавіцкай рэвалюцыяй уночы з 25 на 26 кастрычніка (ст. стылю) 1917 году.

Яшчэ Нацыянальны Менскі Камітэт прабаваў завязаць адносіны з першым рэвалюцыйным расейскім урадам князя Львова, але там панаваў дух цэнтралізму і дэлегацыя беларуская князем Львовым была ўсё-ж такі выслухана, але й толькі таго.

Самі капрызы расейскае рэвалюцыі давалі ясна зразумець згуртованаму беларускаму грамадзянству, што яно можа рахаваць толькі на ўласныя сілы свайго Народу, будзячы яго да сувэрэннага жыцьця. Трэба было, як мага шырэй, паклікаць да працы над будовай новага лёсу Бацькаўшчыны самі народныя масы, каб сам Народ мог скантраляваць датыхчасовую працу сваіх правадыроў і даў падмогу для новае ўдачы, новай барацьбы.

Вялікая Рада, доўга не чакаючы, паклікала на „Усебеларускі Зьезд“ усе арганізованыя сілы свайго Народу.

Покліч гэты быў недарэмны.

Як у сівыя часы старадаўняе Полаччыны на **Усенароднае Веча** зьбіраліся ўсе жывыя сілы народу, так і ў наш час сабраліся яны ў 1917 г. ў Менску.

На Ўсебеларускі Зьезд сабраліся прадстаўнікі ўсіх земстваў: губэрнскіх, павятовых і валасных, прадстаўнікі культурна-прасьветных беларускіх арганізацыяў, палітычных партыяў, бежанскіх, вайсковых і іншых беларускіх арганізацыяў, агулам 1167 дэлегатаў з пастанаўляючым голасам. Да гэтага трэба дадаць 705 дэлегатаў з дарадчым голасам і, такім чынам, цэлы зьезд даходзіў амаль што да 2000 дэлегатаў.

Дарэмна мы шукалі-б, сярод гэтае масы народных выбарных, прадстаўнікоў буржуазнае клясы—іх тут **ня было а ніводнага**. Шэрыя фігуры выбарных адпавядалі тэй шэрай рабочай, сялянскай і салдацкай масе беларускай, якая іх на зьезд паслала. Адарваная ад Народу, чужая клясавым і нацыянальным інтарэсам Яго, **буржуазія Беларусі** не падала ў гэты гістарычны момэнт ніводнага голасу. Сам гаротны Народ, як умеў, так і рашаў сваю ролю.

Ня гледзячы, аднак, на такі магутны рух, на вялізную арганізацыйную работу Вялікай Беларускай Рады, сама Рада гэтая **ня была фактычнаю ўладаю** Беларусі.

Незабаўна пасьля 25 кастрычніка—пасьля бальшавіцкага перавароту ў Петраградзе, — ў Менску адбыўся, калі так можна назваць, **краёвы**, **мясцовы бальшавіцкі** пераварот. Бальшавікамі Заходняга фронту і Менскага гарнізону быў утвораны гэтак званы „Совет Народных Комиссаров Западной области и фронта“ на чале з нейкім Ляндэрам, быўшым вураднікам Ўсерасейскага Земскага Саюзу.

Як-жа адносілася гэтая фактычная, ўсё-ж такі, ўлада, гэтая „Рада Народных Камісараў“ да Вялікай Беларускай Рады, да нацыянальнага беларускага органу, які зьбіраў Усебеларускі Зьезд?

Трэба сказаць праўду, што адносіны бальшавікоў да Вялікай Беларускай Рады ня былі, ў кожным разе, абсолютна варожымі.

Менскія народныя камісары сядзелі ня надта моцна на сваіх крэслах, бо бальшавікі наагул былі вельмі слабымі; яны мелі за сабою ані нязначны процэнт грамадзянства, немаль што нікога й нічога, апрача разбэшчанага, здэморалізованага фронту. І дзеля гэтага толькі яны глядзелі на Вялікую Раду

жому, ніякай граматнасьці ў размове ня пільнавалася, бо, праўду кажучы, ў граматыцы тае мовы, якою гаварыла, яна. бедненькая, разумела столькі сама, сколькі я—няшчасны Звончык—у розных гатунках шампанскага.

Ведама-ж, дзе там мужыцкаму сыну да шампанскага; дый навошта маладой кабеціне граматыка? — думаюць іншыя.

А наш дзеяч знаўся і з яшчэ большымі дзеячамі, рознымі там гэнэральскімі ды панскімі дзяцьмі, якіх ён заўсёды на сходах, падымаючы руку, выбіраў ганаровымі старшынямі розных беларускіх арганізацыяў, зусім не зважаючы на тое, што гэтыя старшыні сапраўды былі надта ганаровымі і ня ведалі, часам, як завуцца тыя арганізацыі, ў якіх яны павінны граць першую, як кажуць, скрыпку.

Дык як-жа ж пры гэтакім знаёмсьцьве жаніцца з простаю дзеўчынаю?!

Зьявіліся ў дзеяча й дзеткі, якімі вельмі-ж няскупа абдарыла доля маленькага Некага за вельмі нядоўгі час.

Вось тут, як кажуць, узяло дый вылерлася з мяшка шыла...

Скончылася, значыць, кар'ера нашага дзеяча.

Жыў гэта ён сабе ў сталічным месьце, праўда недалёка ад роднае вёскі і ўсё яшчэ не пакідаў быць... дзеячом. Ды не абы якім, а старым, заслужаным, сьвядомым, энэргічным і г. д.

Аж сталася нешта цяжкаватым жыцьцё ў тэй слаўнай вёсцы, дзе радзіўся Нехта. Зачыніў там хтосьці гімназію, заснованую Некім, ці што, ды шмат розных дробных балячак набралася.

Выбрала, гэта, вясковая грамада дэлегатам да дзеяча старога дзядзьку Баўтрука, які шмат розных тытулованых асобаў бачыў, навет, служачы ў маскалёх, адказваў на запытаньні аднаго, няyдобрай памяці, вялікага князя, а вось дзеячоў нашых ведаў ня надта-ж добра і досіць быў рад, што, нарэшце, трапіць да самае хаты аднаго з дзеячоў, якому прывык ужо верыць і якога, ведама, хацеў пазнаць яшчэ бліжэй.

Аж, калі прачыніў дзядзька Баўтрук дзьверы сьвятога для яго дзеячоўскага парога і спытаўся, ці ўдома гэты самы грамадзянін Нехта, што заўсёды гаворыць толькі панашаму, папростаму, дык страшэнна зьдзівіўся, што дзеячова жонка паклікала свайго мужа чужою для дзядзькі Баўтрука мовою, дзеяч, пушчаючы з рук адно з уласных дзяцей сваіх, загаварыў да яго гэтак сама пачужому і на беднага дзядзьку адразу павеяла нейкім лёгкім халадком.

Ён так зумеўся, што ня ведаў ужо, як і загаварыць да вядомага дзеяча.

А пасьля, вярнуўшыя ў вёску, стары Баўтрук адрапартаваў суседзям:

— «Дарма вы, браточкі, зганялі мяне ў сталіцу да гэтага нягодніка. Дык ёнжа толькі з намі, дурнымі, панашаму, папростаму, гамоніць, каб як-нібудзь спрытней ашукаць нас. А паслухалі-б вы, дабрадзеі, як ён гаворыць са сваімі уласнымі дзеткамі ды з жонкаю... папанску неяк».

Гэтак падумаў пра дзеяча стары Баўтрук.

А ці пэўны мы, што нехта можа падумаць інацай?

Калі-ж няма гэтай пэўнасьці, дык мусі канец ужо кар'еры некаторых вядомых дзеячоў.

**Звончык.**

## „Сьледам за дзедам".

(Беларуская прыказка).

Родны наш краю, Русь Бела старэнька,
Ў лугох і вазёрах красуешся ўсенька,
У рэчках, абросшых трасьцінай, аерам,
Лясамі атулена, поўнымі зьверам;
У кветках даліны, курганы і горы —
Ты чыста, як поясаў слуцкіх узоры!

Грыміць у дзяцей тваіх родная мова
І песьня,—як ліра, як дудка вярбова, —
Разносіцца рэхам пры захадзе сонца,
Дзе сівы дзед грае ля хаты ваконца,
А ўнукі і ўнучкі ад кожнае хаты
Слухаюць культ твой чароўны, багаты.

Ты, матухна нашая родная, міла!
Жыве і жыць будзе нязьнішчана сіла
Ў грудзёх тваіх дзетак і ўнукаў сярмяжных,
І так, як дзяды, неадменных, адважных,
Як прадзеды беглі дзядоў сваіх сьледам,
Так праўнукі пойдуць іх сьледам за дзедам!

Так!—сьледам за дзедам—нароўні з людзямі,
Як роўныя з роўнымі—пойдзем мы самі
Сваею дарогай к бажышчу навукі!
Ніхто ня прыпыніць: ні крыўда, ні мукі
Дарогі да сонца свабоды тым сьледам—
Якім шлі заўсёды унукі за дзедам!

**Гальяш Ляўковіч.**

Слонім.
30—VIII—1921.

# Замежныя весткі.

## Беларусь на конгрэсе прыгнечаных нацыяў.

Міністар заграніч ных справаў Беларуск. Народн. Рэспублікі д-р А. Цьвікевіч выехаў з беларускай дэлегацыяй у Жэнэву на конгрэс прыгнечаных нацыяў.

## Беларусь і жыды.

Міністар нацыянальных меншасьцяў Б. Н. Р., С. Жытлоўскі прыбыў у Карлсбад, дзе адбываецца ўсясьветны сыяністычны конгрэс. П. Жытлоўскі меў шмат нарадаў па беларускім пытаньні, ў зьвязку з жыдоўскаю проблемаю, са шмат якімі віднымі сыяністычнымі дзеячамі, паміж іншым, з д-рам Вэйцманам, Сакаловым, Л. Моцкіным і інш.

## Беларускія школы ў Лацьвіі.

У Латгаліі (Лацьвія) сёлета закладаецца, пакуль што, 20 беларускіх пачаткавых школ.

# Палітычная хроніка.

*Пятніца,* 9 *верасьня.*

— Урадовы крызыс у Польшчы, паводлуг газэтных паведамленьняў, наступіць у найбліжэйшым часе.

— Управа P. S. L. (польск. народн. парт.) пастанавіла тэлеграфна выклікаць сваіх сяброў на над'звычайнае паседжаньне дзеля фармальнае пастановы.

— 6-га верасьня ўвечары пад старшынствам Скульскага адбыўся сход соймавых партыяў. Рэзультаты нарады перасланы прэм'еру Вітосу, а таксама й ліст, якім заяўляецца, што соймавыя групы разьдзяляюць пагляды Вітоса аб адстаўцы ўсяго кабінэту.

— У зьвязку з пастановаю правых групаў, Вітос склікаў у чацьвер, 8-га верасьня сход Рады Міністраў, на якім будзе пастаноўлена аб адстаўцы цэлага кабінэту.

— 7 гэтага верасьня ў Варшаве адбылося пасяджэньне сэньёрэн-конвэнту па справе аб прысьпяшэньні скліканьня Устаноўчага Сойму. Соцыялістычныя паслы трэбавалі правядзеньня праз Сойм закону аб вынятковым палажэньні. Устаноўлены тэрмін скліканьня Сойму на 13 г. м.

— Саюзныя дзяржавы паставілі вэнгерскаму ўраду ультыматум, трэбуючы незабаўна ачысьціць Зах. Вэнгрыю, прызнаную Аўстрыі.

— Югаславянскі Урад энэргічна запротэстуе ў Лізе Народаў проці прынятку ў Лігу Вэнгрыі.

— Аўстрыйскі Урад паслаў у Лігу Народаў ноту, выказваючы мірныя тэндэнцыі Аўстрыі і просячы абароны ад імпэрыялізму Вэнгрыі, а таксама нацiску на яе ў сэнсе адданьня Аўстрыі заходніх камітатаў.

— „Weestminster Gazette" піша, што камісія чатырох скончыць сваю працу над справаю Верхн. Сьлезіі 20 г. м. Становішча Рады Лігі Народаў будзе прынцыпіяльна розьніцца ад пазыцыі Францыі і Англіі.

*Субота,* 10 *верасьня.*

— З Лёндану й Парыжа паведамляюць, што ў Лёндане паўстае замер запрапанаваць Камісіі Лігі Народаў новы плебісцыт у Верхняй Сьлезіі.

— Бэрлінскія газэты цьвердзяць, што Рада Лігі Народаў займаецца плянам нэйтралізацыі Верх-

надта нявыразна, хаця і стараліся быць, як кажуць, у курсе ўсяго, што яна тварыла.

Трэба ад'значыць, як цікавае зьявішча, тое, што бальшавікі, стаўшы ўладаю, былі спачатку вельмі мягкімі й ня надта хутка дадумаліся да сучасных нечалавечых формаў чырвонага тэрору.

Пад носам менскіх народных камісараў доўгі час істнаваў падгалосак керэншчыны менскі камітэт расейскае партыі соцыялістых-рэвалюцыянэраў і вырабляў штучкі іншы раз ня вельмі смачныя для бальшавікоў. Камітэт расейскіх эс-эраў меў сваю газэту, якую бальшавікі пачалі закрываць толькі пасьля разгону Ўсебеларускага Зьезду.

Пабеларуску тады выходзіла ў Менску толькі часопісь „Вольная Беларусь", на якую наложана была народным камісарам латышом Рэзаускім яго асабістая цэнзура.

Апрача „Вольнай Беларусі" выходзіла парасейску „Беларуская Рада"—орган Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады.

Расейскія эс-эры ўвесь час дзяўблі ў сваёй газэце, што ўся ўлада ў Расеі павінна належаць Гаспадару Зямлі Рускай—Устаноўчаму Сойму і ў гэтым самым духу выпушчалі на вялізных аркушох адозвы, якія часта спрытна наклейваліся на дзьверы кабінэту самога Мясьнікова бальшавіцкага камандзера Заходняга фронту, быўшага прапаршчыка.

Прыхільнасьць расейскіх эс-эраў да беларускага руху, якую яны стараліся паказваць у гэты час, можна вытлумачыць толькі страшэннай нянавісьцю іх да бальшавікоў.

Аднак, нянавісьць гэту бальшавікі досіць доўга і цярпліва зносілі.

Адносячыся гэтак да эс-эраў, якіх панаваньне Керэнскага намножыла бяз ліку, бальшавікі не маглі горш адносіцца й да беларускага нацыянальнага цэнтру—Вялікай Беларускай Рады.

Наадварот, у адным прыказе бальшавіцкага камэнданта аб ваенным палажэньні ў горадзе, ясна было зазначана, што з пропускамі Вялікай Беларускай Рады, гэтак сама, як і з бальшавіцкімі, можна зьяўляцца на вуліцы і пасьля забароненага часу.

Яшчэ цікавей, што ўсялякія зьезды былі бальшавікамі забаронены, а Вялікая Беларуская Рада, ігнаруючы гэтую забарону, склікала Ўсебеларускі Зьезд ды годзі.

З гэтым бальшавікі ўжо нічога не маглі парадзіць. Хаця з дакумэнтаў, надрукованых у адзіным (першым) нумары газэты „Бѣлоруская Земля", выпушчанай у сьвет Старшынёю Першага Беларускага Ўраду (Народнага Сэкрэтарыяту) Язэпам Варонкаю, відаць ясна, што бальшавікі стараліся панасылаць на Зьезду сваіх агентаў, каб зрабіць там „переворот умов". Але нічога з гэтага ня выйшла.

* * *

5-га (на новы стыль 18-га) сьнежня 1917 году Веча Беларусі—Першы Ўсебеларускі Зьезд урачыста быў адчынены ў будынку Менскага Гарадзкога Тэатру.

Пачаліся нялічаныя прывітаньні, з якіх найгарачэйшым было слова старшыні менскае украінскае грамады.

„Н а ш а  г о р а — в а ш а  г о р а
Н а ш а  с ь в я т а—в а ш а  с ь в я т а"...

раздаліся братэрскія, шчырыя словы украінца, выклікаўшы неапісальны гром аплёдысмэнтаў і воклікаў: „Хай жыве вольна Украіна", „Гэть насільніків"... і. г. д.

Прадстаўнік, здаецца, што „Rady Polskiej ziemi Mińskiej", вітаючы Зьезд, скончыў сваю прамову словамі: „Niech żyje niepodległa Rzeczpospolita Polska! Niech żyje niepodległa Rzeczpospolita Białoruska!" (Хай жыве незалежная Рэспубліка Польская! Хай жыве незалежная Рэспубліка Беларуская!).

Гісторыя ўжо паказала наколькі шчырымі былі ў другой сваёй часьці пажаданьні польскай менскай рады.

Прадстаўнік іншай нейкай дэмократычнай польскай арганізацыі вітаў Зьезд на беларускай мове.

Прадстаўнік арганізованых татараў Заходняга фронту, вітаючы зьезд, заявіў што 35 тыс. мусульман-вайсковых гатовы ў кожную мінюту актыўна падтрымаць Усебеларускі Зьезд. Але-ж гэта мусі былі толькі моцныя словы маладога „быўшага" афіцэра.

Віталі Зьезд прадстаўнікі менскага Губэрнскага Земства, Гародзкай Думы і інш. інстытуцыяў часаў Керэнскага.

Віталі і бальшавікі—самі народныя камісары—Бэрсон (нацыянальных справаў) і Рэзаускі (ўнутраных справаў). Першы ад імя P. P. S. левіцы, а другі ад менскага камітэту партыі бальшавікоў.

Прамова Бэрсона прайшла досіць спакойна, а Рэзаускага два матросы, дэлегаты Зьезду, проста вывялі пад рукі, калі ён абазваў беларускі штандар, вісеўшы над трыбунаю, „трехцветной тряпкою" і рэкамандаваў замяніць яго „красным знаменем йнтернаціонала".

Прывітаньняў саміх дэлегатаў ад розных беларускіх арганізацыяў нельга й пералічыць.

Ад'значыць варта нязвычайную па сіле й праграмнасьці прамову поэта Алеся Гаруна (нябожчыка Аляксандра Прушынскага), які вітаў Зьезд ад імя менскае арганізацыі „Беларускай Соцыялістычнай Грамады". А. Гарун тады толькі што вярнуўся з Сыбіру, дзе адбываў палітычную ссылку; ён заклікаў усіх дэлегатаў да будаваньня лепшай будучыны нашае Бацькаўшчыны-Беларусі, якая павінна мець шчыра народную ўладу, дэмократычны лад і парадак, пры якім былі-б забясьпечаны правы ўсіх народаў Беларусі.

Грамавыя воклікі й аплёдысмэнты былі адказам на прамову поэта.

Прывітальныя прамовы аднялі шмат часу; аднак канец іх быў прысьпешаны і Зьезд падыйшоў да цяжкае практычнае працы.

**Краўцоў Макар.**

(Працяг будзе).

няе Сьлезіі на ўзор Сарскага вокругу.

— Панамская рэспубліка прызнала Лацьвію de jure (па праву).

— Лацьвійскі Установчы Сойм зьбярэцца 20 г. м.

— Савецкі ўрад пазваляе стварыць латыскія консульствы ў Самары і ў Растове.

— Румынскі ўрад на запытаньне пасла Карахана выказаў сваю згоду на румынска-расейскія перагаворы ў Варшаве аб утоку Днестра.

— Ангельскі адказ на ірляндзкую ноту выказвае папушчэньні, а таксама запрашае ірляндцаў у Лёндан на конфэрэнцыю 20 г. м. Перагаворы з сінфэйнэрамі (ірляндзкія незалежнікі) прызнаюцца магчымымі, калі яны адракуцца ад ідэі стварэньня з Ірляндыі незалежнае дзяржавы.

— Паўстаньне ў Індыі ня мае ўжо мясцовага характару, а зьяўляецца агульным, набіраючы ўсё шырэйшых разьмераў.

— Весткі з Канстантынопалю пярэчаць грэцкім ведамасьцям аб перамозе над нацыяналістымі. Турэцкія нацыяналістыя ў далейшым працягу адбіваюць атакі грэкаў.

— Аднача сна з турэцкім пярэчаньнем агентства Гаваса паведамляе аб заняцьці грэкамі Ангоры.

**— З Менску паведамляюць, што Ваенная Рэвалюцыйная Рада аб'явіла на Беларусі ваеннае палажэньне.**

— Паводлуг вестак з Рыгі, лік галодных у Расеі даходзіць да 36 мільёнаў.

— Сучасны галоўны павадыр аружных савецкіх сілаў, Каменеў прыехаў з Масквы ў Кіеў,

*Нядзеля*, 11 *верасьня.*

— Нарада соймавых групаў польскага сойму, ў якой мелі удзел гэткія партыі: польская народная партыя (P. S. L.), нацыянальна-народная злучнасьць (N. Z. L.), партыя констытуцыйнай працы (К. Р. К) і мяшчанская партыя (К. М.)—пастанавіла падаць прэм'еру Вітосу гэткае пісьмо: „Пане Прэм'еру! Цэнтравыя партыі гэтым даводзяць да Вашага ведама, што цалком дзеляць пагляд, што да патрэбы незабаўнай адстаўкі цэлага кабінэту“.

Такім чынам, урадовы крызыс у Польшчы зрабіўся няўхільным.

— Новы проект Гюманса ў справе Віленшчыны, аб прылучэньні яе да Незалежнае Літвы на грунце провінцыяльнай аўтаноміі,—выклікаў у Варшаве моцнае абурэньне. Усе, бяз вынятку, партыі выказваюцца проці проекту, лічачы, што яго нельга навет абгавараваць.

— Урадовае аўстрыйскае паведамленьне аб выпадках на аўстра-вэнгерскай граніцы сьведчыць, што нападаючых вэнграў было больш, як 5.000 чалавек, з якіх большасьць было вайсковых аддзелаў на чале з сваімі афіцэрамі.

— Есьць весткі, што аўстрыйцы ў баі пад местам Кіршбэрг страцілі 8 забітых і 23 раненых.

— Палітычная камісія Лігі Народаў і камісія для справаў азбройваньняў пастанавілі адбываць дэбаты яўна.

— Сучасная сэсія Лігі Народаў разгледзіць заявы аб прынятку ў Лігу Літвы, Лацьвіі, Эстоніі й Вэнгрыі. Магчыма, што Малая Антанта спрацівіцца прынятку Вэнгрыі.

— Камісія па прынятку Літвы, Лацьвіі, Эстоніі й Вэнгрыі ў Лігу Народаў пастанавіла стварыць падкамітэт дзеля апрацаваньня справаздачы аб варунках прынятку. Па прапазыцыі Сэсыля аднагалосна прынята яўнасьць паседжаньняў камісіі. Чэхаславакія ня мае прадстаўніцтва ў падкамітэце, што зьяўляецца карысным для Вэнгрыі.

— Камісія па прынятку новых дзяржаваў у Лігу Народаў прыняла прапазыцыю Вівіані. Прыняты будуць дзяржавы, што маюць дэмократычны лад, арганізацыі, што прадстаўляюць сілу й аўторытэт, да якога Ліга Нар. магла-б, пры патрэбе, зьвярнуцца; дзяржавы, што прадстаўляюць народ у сапраўдным значэньні; дзяржавы, шануючыя міжнародныя абавязаньні. Камісія даручыла камітэту разгляд кандыдатаў Літвы, Лацьвіі, Эстоніі й Вэнгрыі,

*Панядзелак*, 12 *верасьня.*

— Польшча напярэдадні зьмены кабінэту. Клюбы N. P. R., Wyzwolenie і Констытуцыйнае Працы адтрымалі пісьмо за подпісам Стапінскага з прапазыцыяй паразуменьня між сабою аб кандыдатуры Домбскага на прэм'ера. Кабінэту Домбскага лявіца і P. S. L. выказаваюць падтрыманьне.

— Клюб P. S. L. прыняў рэзалюцыю, ў якой заяўляе, што ў часе, калі Польская Дзяржава была ў небясьпецы, дык польская народная партыя пастанавіла прыняць адпавядальнасьць і паслала старшыню ў кіраўнікі ўраду. Урад, на чале якога Вітос бараніў быт Дзяржавы, ўмацаваў незалежнасьць Польшчы і даў мір. Ацэньваючы труднасьці, стаўшыя перад дзяржавай, урад Вітоса двойчы зьвяртаўся да Сойму з заяваю, што імкненьне да творчае працы павінна знайсьці одгук ува ўрадзе і двойчы заклікаў да утварэньня новага ўраду, аддаючы ўладу Сойму. Соймавыя партыі ўхіліліся ад адпавядальнасьці і выбралі дарогу опозыцыі. Ня хочучы пакідаць дзяржавы на ласцы, партыя P. S. L. у далейшым пастанавіла несьці адпавядальнасьць і пакінула сваіх прадстаўнікоў ува ўрадзе. Партыі пагоршылі ў апошнія тыдні сытуацыю; опозыцыя вядзець вольную агітацыю. Усё зроблена ў той час, калі ўрад быў заняты барацьбою з рэвалюцыйнымі элемэнтамі, што хочуць ударыць па фундамэнтах незалежнасьці. У гэтых варунках парт. P. S. L. прыйшла да прakaнаньня, што далей нясьці адпавядальнасьці ня можа й пастанаўляе: 1) зацьвярдзіць пастанову управы—адклікаць сваіх прадстаўнікоў; 2) выказаць ім, а таксама й Вітосу веру й падзяку.

— Вітос пераслаў Начальніку Польскай Дзяржавы пісьмо з матывамі адстаўкі кабінэту.

— На бягучай сэсіі Літоўскага Сойму мае быць дэфінітыўна прыняты закон аб зямельнай рэформе, а таксама й констытуцыя.

— На Балтыцкай конфэрэнцыі Фінляндыю будзе прадстаўляць віцэ-дырэктар чугунак Янсон, Расея на гэту конфэрэнцыю дэлегуе Красіна.

— Лацьвія паведаміла Раду Лігі аб прылучэньні яе да міжнароднай падмогі.

— Немцы заплацілі ў камісію стратаў адзін мільярд марак золатам.

— З Рыгі паведамляюць, што лацьвійскі пасол Бандрэвіц заявіў журналістым, што латыска-літоўскія адносіны папраўіліся, дзякуючы назначэньню Пурыцкіса міністрам заграничных справаў. Абодва краі стаяць на дарозе да гаспадарчага зблізжэньня і трэба спадзявацца, што гэта станецца фактам на эканамічнай конфэрэнцыі ў Рызе. Надта добрае эканамічнае становішча Літвы абцяжваецца хіба толькі няўхільнасьцю утрыманьня значнае арміі ў зьвязку з віленскаю справай.

— На гаспадарчай конфэрэнцыі ў Рызе, якая пачнецца сягоньня, маюць быць прадстаўлены: Лацьвія, Літва, Эстонія і Фінляндыя.

— Савецкім паслом у Фінляндыі назначаны Мархлеўскі.

— Контр-атака кэмалістых затрымала грэцкае наступленьне на Ангору.

*Аўторак*, 13 *верасьня.*

— Як паведамляюць з пэўных крыніц Варшаўскай прэсы, напружанасьць адносін паміж Польшчай і Савецкай Расеяй залежыць ад самой Польшчы, каторая пазваляець знаходзіцца на сваёй тэрыторыі белагвардзейскім арганізацыям, асабліва Савінкаву. Дзеля гэтага Расея стрымоўваецца спаўненьнем Рыскага трактату і толькі поўная ліквідацыя процісавецкіх арганізацыяў дасьць магчымасьць наладзіць добрыя суседзкія адносіны.

— У Парыжы за апошні час ходзяць чуткі, што месца прэм'ера Брыяна можа зноў заняць Клемансо, каторы сваей жалезнай воляй выдзяляўся за ўвесь час вайны.

— „Vorwaerts“ паведамляе што пэўныя колы высоўваюць на пост прэзыдэнта Нямецкай Рэспублікі вядомага поэта і драматурга Гауптмана. Большасьць нямецкіх газэт проці гэткай кандыдатуры.

— Другі проект Гюманса ў справе Віленшчыны напаткаў варожыя да яго адносіны як са стараны Літвы, так і Польшчы У гэтай справе Ашкіназі і Гальванаўскас адтрымалі ад сваіх урадаў адпаведныя інструкцыі.

— У зьвязку з адстаўкай кабінэту Вітоса, называюць трох кандыдатаў на прэм'ераў: Вітоса, Домбскага і Рачкевіча; кандыдатура Рачкевіча маець найбольш прыхільнікаў, асабліва, калі кабінэт будзець састаўлены з спэцыялістых.

— Адтрымана, яшчэ праўда неофіцыяльна, паведамленьне што Лацьвія прынята ў склад Лігі Народаў.

— Савецкі Урад Расеі зьвярнуўся да Румыніі з прапазыцыяй пачаць міравыя перагаворы.

— З Масквы паведамляюць, што нібыто Троцкі падаўся ў адстаўку і высоўвае на сваё месца Фрунзэ, камандуючага палуднёвым фронтам. Фрунзэ вызваны ў Маскву.

— Мястэчка Лепель, як паведамляюць газэты, амаль што ня усё згарэла, прычына пажару невядома.

*Серада*, 14 *верасьня.*

— Як паведамляе бэрлінская прэса, ў Расеі зноў адкрыты вялікі згавор проці Савецкай Улады, арыштована, ў зьвязку з гэтым, больш як 400 асобаў.

— З Расеі паведамляюць, што бальшавікі, замест пасылкі ў галодныя краі хлеба, пасылаюць вагонамі адозвы.

— Прызнаньне Лацьвіі „de jure“, Швайцарыяй надта задаваляе ўсе палітычныя колы. Прызнаньне зроблена дзякуючы разумным захадам прадстаўніка Лацьвіі Ерэта на Швайцарскім зьездзе.

— Як паведамляе ПАТ, немцы няпэўны ў сваім становішчы ў прамысловых акругох В. Сьлезіі і дзеля гэтага стараюцца вывезьці адтуль свае фірмы і банкі.

*Чацьвер* 15 *верасьня.*

— У Мюнхэне ўрад абвясьціў аб адстаўцы кабінэту. Наагул апошнія ўрадовыя паведамленьні сьведчаць аб напружанасьці палітычнай сытуацыі ў Баварыі. Цэнтральны Камітэт профэсыянальных саюзаў выдаў у нядзелю адозву, ў якой заклікае рабочых да гэнэральнай забастоўкі, калі ўрад у працягу 3-х дзён ня зьніме стану аблогі. У шмат якіх пунктах Мюнхэну парасківаны проклямацыі, пагражаючыя сябром ураду тэрорам, калі арыштованы паліцыяй незалежны соцыялісты пасол Фішэр ня будзе зараз-жа выпушчаны на волю.

— Францускі парлямэнт мае сабрацца 12 кастрычніка. На першым паседжаньні прэм'ер - міністар Брыян мае зрабіць заяву аб адносінах францускага ўраду да міжнароднай палітычнай сытуацыі. Паведамляюць, што будзе пастаўлена пытаньне аб давернасьці Брыяну.

— Адказ ірляндзкага прэзыдэнта дэ-Валеры на ангельскую прапазыцыю высланы спэцыяльным кур'ерам. Лёнданскія палітычныя кругі з вялікай цікавасьцяй чакаюць урадовага абвяшчэньня адказу.

— Ліга Народаў мае засядаць да 29 г, м.

— Народны камісар заграничных справаў выслаў польскаму ўраду яшчэ адну ноту аб процібальшавіцкіх арганізацыях у Польшчы.

— Паводлуг чутак, Маршалак Польскага Сойму падаў Начальніку Дзяржавы проект даручэньня паслу Гломбінскаму стварыць кабінэт.

— 12 верасьня Рада Міністраў Польшчы пастанавіла зьліквідаваць міліцыю на нэйтральнай зоне і ўсходняй граніцы Рэчыпаспалітай.

— Чразвычайка вядзе сьледзтва па справе дзейнасьці арыштованых сяброў Усерасейскага Грамадзкага Камітэту.

— Учора ў Бэрліне забаставалі электрычныя заклады, газоўні і трамваі. Ня выйшла ніводная газэта.

— Старшыня бальшавіцкай абменнай камісіі Ігнатаў адкліканы з свае пасады і ў пятніцу выяжджае. Намесьніка яго, пакуль што, не назначылі.

# З ПРЭСЫ.

## Па аднэй дарозе.

Пад гэткім загалоўкам варшаўская расейская газэта «Свобода» зьмясьціла за подпісам «Банкрэта» артыкул, у якім піша:

„Тое, што цяпер дзеецца ў Беларусі, окупаванай чырвонымі, трудна паддаецца апісаньню. Трудна знайсьці падхадзячыя выразы, каб намаляваць цярпеньні беларускага народу. Да ўсіх жахаў, якія нясе з сабою чужы беларускаму народу «камуністычны рай», далучаецца яшчэ спрытна робленая камуністымі гульня на раз'яднаньне асобных народнасьцяў, што насяляюць Беларусь; не адкідаюцца ў гэтай гульні й жыдоўскія пагромы.

Маскоўскія камісары, дзеля таго, каб скомпромэтаваць беларускі нацыянальны рух з аднаго боку, а з другога—каб прыцягнуць на свой бок дэмократычныя элемэнты народу, вядуць работу ў двох кірунках. Камуністыя моцна агітуюць за тое, што беларускія партызаны—бандыты, уцёкшыя з чырвонай арміі дзеля таго, каб абіраць мірнае насяленьне, але вёска беларуская ведае, хто такія партызаны, ведае, што партызаны ня з вёскаю ваююць, а з камуністычнай нечысьцю—камісарамі ды чакістымі; гэтым і тлумачыцца падтрыманьне, якое сяляне робяць партызанам.

Ніхто ня будзе адкідаць, што ёсьць на Беларусі і элемэнт чыста бандыцкі, але гэта ўжо дзіцянё камуністычнага выхаваньня — „грабь награбленное“ — дык гэта-ж лёзунг камуны. Ды рэч у тым, што ўсё „награбленное“ ўжо знаходзіцца ў руках чакістых ды камісараў, а таму цяпер «народных выбранцаў рабоча-сялянскае ўлады» грабіць нельга. Камуністым трэба выратавацца ад пасьледстваў выхаваньня імі сваіх кампаноў па грабяжы ў мінулым. А справіцца з гэтым трудна, таму, што камуністычная грамада родзіць усё новыя ды новыя кадры бандытаў.

Нярэдкія, хутчэй надта частыя выпадкі, калі бандыты „раскаіваюцца“ ў праступках проці раднае ўлады ды йдуць «з павіннаю», тады яны, як маючыя „стаж“, адтрымоўваюць адпаведныя пасты ў Чэ-ка і ў розных «комах», тады гэткі бандыт робіцца ўжо бандытам іншага характару, так сказаць, «совбандытам».

Бяда тэй вёсцы, ў якую прыедзе гэты совбандыт зьбіраць харчовы падатак (продналог).

Камуністыя ведаюць, што іх кампаны - грабежнікі ня могуць быць сур'ёзнай небясьпекаю для раднае ўлады, але затое гэта „комбратія“, дзеючы ў духу камуны, грабіць сялян і асабліва жыдоў.

А беларускія партызаны, натхнёныя адною ідэяю—ідэяю барацьбы з камуністымі дзеля вызваленьня Беларусі, прадстаўляюць сур'ёзную небясьпеку для раднае ўлады. І вось камуністыя бяруцца за агітацыю, стараючыся пераканаць насяленьне Беларусі ў тым, што ніякага нацыянальнага руху няма, а ёсьць бандыты ды пагромшчыкі. Не здавольваючыся агітацыяй, камуністыя ад імя «бандытаў» робяць пагромы, стараючыся навочна паказаць перш за ўсё жыдом, што беларусы—гэта пагромшчыкі. Горш за ўсё, што жыдоўскае насяленьне досіць часта верыць гэтай правакацыі, тым больш, што камуністыя ўдачна падтасоўваюць усе факты пры падмозе камуністых таксама жыдоў. Вельмі часта камуністыя «твораць» пагромы, пішучы ў газэтах аб масавых пагромах у тых местах, дзе сапраўды пагромаў ня было.

Гэткі выпадак вядомы датычна м-ка Старобіна, Слуцкага павету, дзе беларускія партызаны расстралялі сем чалавек азброеных камуністых. Расстрэленыя аказаліся жыдамі, і вось... гатовы матар'ял для агітацыі й абвінавачаньняў у пагромных дзеях партызанаў. Кампартыя настолькі хітра павяла агітацыю сярод жыдоўскага насяленьня аб тым, што беларускія партызаны ваююць з жыдоўствам, што жыды Слуцкага райёну прынялі зброю ад камуністых дзеля барацьбы з нацыянальным рухам Беларусі. Ведама-ж маласьвядомая часьць жыдоўскага насяленьня Слуцкага райёну мабыць пераконана, што яна мае справу з бандыта-пагромшчыкамі.

Гэткі сумны рэзультат для беларусаў хрысьціян і беларусаў жыдоў камуністычнай агітацыі на нашай Бацькаўшчыне. Як бачым, палітыка камуністых часткаю ўдалася і чырвоныя пагромшчыкі могуць трыумфаваць перамогу; ў гэтым ім памогуць расейскія монархістыя. Ўзаемная ненавісьць сапраўды павялічваецца з дня на дзень і пераходзіць ужо на сялян, якія з свайго боку бачаць у жыдоўсьцьве крыніцу камунізму.

Выхад з гэтага палажэньня ў тым,—што ўсе дэмократычныя слаі жыдоў разам з дэмократычнымі групамі беларусаў павінны выказаць процідзеяньне працы кампартыі.

Хай Беларусь, быўшая пры цару ссыльным месцам, будзе радзімаю для ўсіх роўнапраўных грамадзян. Хай векавое сужыцьце жыдоў з беларусамі вырьецца ў творчую працу на карысьць Беларускай дзяржаўнасьці. Жыдоўскім дэмократычным групам па аднэй дарозе з беларусамі — наперадзе.. Назалежная Беларусь“.

---

### Нота Беларускага Савецкага Ўраду да Ўраду Польскага.

Пад гэткім падзагалоўкам знаходзім у аглядзе палітыкі Сав. Расеі, які робіць цэнтральны орган польскае соцыялістычнае партыі „Robotnik“ у № 243 за 10 г. верасьня, такі артыкул:

„Ў савецкай Беларускай рэспубліцы, утварыўся камісарыят заграні чных справаў. Камісарыят гэты ў справах, якія датычаць цэлай савецкай фэдэрацыі, падлягае расейскаму камісарыяту. Затое ў беларускіх справах,—як чытаем ува ўрадовым паведамленьні,—выступае зусім „самастойна“.

Дасюль—чытаем далей у тым паведамленьні — толькі Польшча прызнала Беларусь і мае з ёю умову (гаворыцца тут мусі аб рыскім трактаце). У найбліжэйшым часе прадбачыцца заключэньне раду умоваў з Чэха-Славакіяй, Лацьвіяй і. г. д.

Дасюль толькі польскія грамадзяне на Беларусі лічацца чужаземцамі, маючымі правы і гарантыі чужаземцаў. Усе іншыя чужыя падлягаюць тым самым правом, што й савецкія грамадзяне, бо з іх дзяржавамі савецкая Беларусь ня мае умовы.

Вось-жа прэзэс рады народных беларускіх камісараў і камісар беларускіх справаў, А. Чарвякоў выслаў 21 жніўня г. г. ноту да п. Скірмунта, закідаючы польскім уладам, што ня пільнуюцца § VII, п. 1 міравога трактату. Рэч тут у парагафе, які запэўняе беларускаму насяленьню на тэрыторыі Польскай Дзяржавы вольнае разьвіцьцё культуры й роднай мовы. П. Чарвякоў ссылаецца на прасьледаваньне беларускіх школаў, коопэратываў, дзіцячых прытулкаў, навет чытачоў беларускіх газэтаў саўсім не бальшавіцкіх.

Гэтае ноты п. Скірмунт не перадаў польскім газэтам. Мы рады былі-б ведаць, што на яе адказаў. Даўно ўжо мы казалі, што палітыка польскіх уладаў на т. зван. крэсах зьяўляецца бязглуздаю і шкадліваю.

Інтэрвэнцыя п. Чарвякова можа выкліча ў польскага Ўраду крыху зразуменьня, якую карысьць выносяць Саветы з гэтай палітыкі“.

Гэткім вывадам канчаецца артыкул.

# Жыцьцё провінцыі.

**М-ка Сьвіслач**, Ваўкавыск пав.

Цяпер наша інтэлігэнцыя зьбіраецца з сіламі і рыхтуецца, як бы-то адчыніць ў м. Свіслачы, або ў райёне яго беларускую школу. Гэту пробу мы ўжо рабілі два рокі таму назад у першы год існаваньня ў нас польскае ўлады. Хоць цяпер варункі беларускай працы ў нас і вельмі цяжкія, бо тутэйшыя паны беларускую працу называюць правакатарскай, а ўсіх беларусаў-бальшавікамі, страшаць вастрогамі нашых работнікаў. Так як нашы сяляне найбольш папрыяжджалі з Расеі і ўсе бедныя, то адчыніць у сябе школкі не змаглі і да гэтага часу мы жывем без свае школкі.

**С. Забалотны.**

---

**Осава**, Докшыцкай воласьці, Дунілаўскага пав.

Наша вёска знаходзіцца на самай граніцы з бальшавікамі. Пасьля Рыскае умовы, нас надта пакрыўдзілі, што аддзялілі ад ранейшага цэнтру м. Менску, але гэтым не змаглі забіць у кожным беларусе—беларуса і ніколі ня зробяць з нас палякоў.

Мы, як і раней надта цікавімся беларускім рухам і дзяцей сваіх будзем вучыць толькі пабеларуску. Па нашай просьбе з восені ў нас будзець існаваць беларуская школа.

Наша Осаўская школа ёсьць першая школа ў Докшыцкай воласьці і навет у ваколіцы на 50 вярстоў. **К.**

### Адбіраньне царкоўнае маемасьці.

**М. Валожын**, Наваградзкага ваяводзтва. У нашым мястэчку да праваслаўнае царквы заўсёды належаў даволі вялікі школьны будынак і лапіна зямлі. Да вайны ў школьным будынку памяшчалася царкоўна-прыходзкая школа. А ў 1920—21 годзе ў ім была беларуская пачатковая школа. На грамадзкі-ж беларускі кошт быў зроблены і некаторы рэмонт будынку. Сёлета школьны інспэктар Валожынскага павету самадумам захапіў гэты царкоўны будынак пад польскую школу ў Валожыне, ў якой назначыў вучыцелькамі сваіх блізкіх сваячак. У нас праваслаўная царква і будынак пры ёй заўсёды належалі да праваслаўных, а цяпер адбіраюць... Увесь прыход гэтакім пастунпкам надта абураны і ўстрывожаны. Няўжо-ж у нас школьны інспэктар і царкву гэтак адбярэ? Адзін толькі бацюшка ў нас аб гэтым ня рупіцца. Ён навет, ня гледзячы на ўсе просьбы прыхаджан, ня склікаў у гэтай справе прыходзкую раду. Абмаскалеламу нашаму бацюшку, які так ненавідзіць усё нашае беларускае, малой бяды, што гіне царкоўнае дабро, абы толькі яму было добра. Відаць праваслаўным беларусам, не азіраючыся на сваіх бацюшкаў, трэба самым бараніць сваю праваслаўную і беларускую справу.

**Валожынец.**

# Беларуская хроніка.

## Звольненыя вучыцялі беларускіх школ.

У нумары 10-м мы перадрукавалі з „Роднае Страхі“ 24 прозьвішчы звольненых беларускіх вучыцялёў Валожынскага пав. Вучыцялі гэтыя не маглі быць звольнены з нястачы адукацыі, бо некаторыя з іх паканчалі вучыцельскія інстытуты і ніхто з іх ня скончыў меней як 4 клясы. Калі-ж прыраўняем, што ў польскія школы той-жа інспэктар назначае вучыцялёў з меншай, як 4 клясы адукацыяй, што звальняючы вучыцеля, інспэктар зачыняе разам і школу, дык ясна, што тут справа не ў адукацыі, а ў тым, каб зьвесьці на нішто беларускія школы.

Нам дастаўлены матар'ял аб іншых звольненых вучыцялёх, які і падаём:

| №№ | Имя і прозьвішча вучыцеля. | Дзе школа. | Якую школу скончыў вучыцель. |
|---|---|---|---|
| 25. | Рагель Васіль | Дубіна-Баярская | Выдзержаў экзамен на вучыцеля. |
| 26. | Станкевіч Міхал II | Гарадэчына | Выдзержаў экзамен на вучыцеля. |
| 27. | Скадорва Арсень | Малая Дайнава | Выдзержаў экзамен на вучыцеля. |
| 28. | Сьліж Платон | Лоск | 3 клясы Духоўнае сэмінарыі. |
| 29. | Сівец Тацяна | Пагарэльшчына | 5 кляс гімназіі. |
| 30. | Шаўлюк Антон | Скрыплева | 3 клясы Вучыцельскае сэм. |
| 31. | Жываткевіч Даніла | Малое Запрудзьдзе | 4 кл. Вышэйш. пачатк. шк. |
| 32. | Гарадовіч Мікалай | Заберазь, Бакшчанскае вол. | 4 кл. вышэйш. пачатк. шк. |
| 33. | Кавалёнак Нікан | Ягадзен, Бакшч. в. | 2 кл. Вучыц. сэмінарыі. |
| 34. | Сецька Антон | м Вішнева | 4 кл. выш. пач. шк. |
| 35. | Стафановіч Мікалай | Мількі, Трабскае в. | 5 кл. Рэальнае шк. |
| 36. | Падляхоўскі Павал | Казарэзы, Палачанскае вол. | Вышэйш. пачатк. шк. |
| 37. | Іванова Мар'я | Чарапы, Палач. в. | 5 кл. гімназіі. |
| | | *Вялейскі пав. Маладэчанская воласьць.* | |
| 38. | Жабінская Ганна | Цюрлі | Вучыцельск. шк. |
| 39. | Шунько Аўгеньня | Рагозы | 4 кл. гімназіі. |
| | | *Лебедзеўская вол.* | |
| 40. | Шыман Аўдоля | Вяжуці | Вышэйш. зялезн.-дар. шк. |
| 41. | Івашкевічанка Зінаіда | Марозькі | 7 кл. гімназіі. |
| 42. | Міцька Аркадзь | Скавародкі | 6 кл. гімназіі. |
| 43. | Сіцька Янка | Насілава | Вышэйш. пач. шк. |
| 44. | Юшкевічанка Васа | Цюрлі | 2 клясы Вучыц. сэмін. |
| 45. | Маяйка Вольга | Запалякі | 7 кл. Віленск. Епарх. шк. |
| 46. | Міцька Міхал II | Маркава | 4 кл. гімназіі. |

